*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 51 (1306) 21 СНЕЖНЯ 2016 г.

# З Калядамі і Божым Нараджэннем!



У перадсвяточныя дні ў хрысціянскіх храмах краіны адбываліся малітоўныя спатканні, духоўныя разважанні, рэкалекцыі для моладзі.

У ноч з 17 на 18 снежня ў менскай архікатэдры адбылося моладзевае чуванне, на якое з'ехаліся юнакі і дзяўчаты са ўсёй дыяцэзіі, каб годна падрыхтавацца да свята Нараджэння Хрыстовага. Увечары скаўты даставілі ў Менск лампаду з Бэтлеемскім агнём. Да моладзі звярнуўся з прамовай мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. " Няхай праз вашае хрысціянскае сведчанне, як праз вакно, свежае духоўнае паветра ўвойдзе ў Беларусь і дасць нам новую надзею, якая ў Богу".

У Віцебску ў снежні праходзіў фестываль хрысціянскай культуры. 14 снежня ў канферэнц-зале віцебскага кафедральнага касцёла Езуса Міласэрнага адбылася літаратурная вечарына з удзелам вернікаў розных канфесій, святароў і сясцёр законных, літаратараў - сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў і аматарскіх творчых суполак горада. З прывітальным словам звярнуўся да прысутных біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. У выкананні Наталлі Плешчанка і Анэлі Зайцавай прагучалі вершы Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, а таксама творы кс. Казіміра Сваяка, Яна Паўла II, Яўгена Бартніцкага (псеўданім кс. Сяргея Сурыновіча). Вельмі спадабаліся ўдзельнікам вечарыны музычныя нумары - творы класікі ў выкананні выкладчыка музычнай школы Аляксандра Салаяна і калядныя спевы пад гітару біскупа Алега Буткевіча.







16 снежня 2016 года ў Віцебскім абласным мастацкім музеі адкрылася калядная выстава дзіцячай творчасці. Выставачная зала ззяла святлом Бэтлеемскай зоркі, зробленай ў розных мастацкіх тэхніках, анёлы ў тэхніцы нацыянальнай выцінанкі, керамікі, саломкі сваімі крыламі ўказвалі шлях да Езуса, народжанага ў стаенцы.

У менскім Чырвоным касцёле ў рэкалекцыях удзельнічалі святары з розных рэгіёнаў краіны. Пробашч парафіі ў Празароках Віцебскай вобласці, малады ксёндз Дзмітрый падзяліўся сваімі думкамі пра тое, як хрысціянін можа несці святло веры ў сям'і, у выкананні сваіх абавязкаў на працы, у ажыццяўленні свайго паклікання, скіроўваць свае жыццё так, каб быць больш дасканалым. Ксёндз нарадзіўся ў Паставах, атрымаў адукацыю у Пінскай духоўнай семінарыі. Ён вядзе служэнне на беларускай мове для грамады ў 65-70 чалавек.

- Вельмі ўсцешвае, што маладыя святары, нашы дзецi і ўнукі, адраджаюць святыні, набліжаюць да Бога сваіх бацькоў, - адзначыў ксёндз-пробашч Уладзіслаў Завальнюк падчас нядзельнай імшы.- Калі я бываў у тых краях у савецкія часы, касцёл у Празароках быў прыстасаваны пад патрэбы млына. Зараз там аднаўлена духоўнае жыццё. Летам гэтага года храм будзе ўрачыста адзначаць 110-годдзе.

Ксёндз-пробашч Чырвонага касцёла Ўладзіслаў Завальнюк пажадаў, каб ласка Божая залатой ніццю пранізала супольнасць вернікаў і сем'і беларусаў.

*Эла Дзвінская.*

На здымках:
1. У Менскай архікатэдры падчас моладзевага чування; 2. Працы з выставы ў Віцебску.

ISSN 2073-7033




# 125 гадоў з дня нараджэння Ўладзіславы Луцэвіч



**Уладзіслава Францаўна ЛУЦЭВІЧ** (25 снежня 1891, в. Вішнева, цяпер Валожынскі раён Менскай вобл. - 25 лютага 1960) - беларускі літаратуразнавец і культурны дзеяч. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1959). Жонка Я. Купалы.

Скончыла Віленскую гімназію (1906), педагагічныя курсы ў Варшаве (1908). Працавала выхавацельніцай дзіцячага прытулка ў Вільні. Вяла прапаганду ў рабочых гуртках (у 1909 і 1911 прыцягвалася да суда). У 1914 арганізоўвала прытулак для дзяцей бежанцаў. Прапагандавала беларускую літаратуру, друкавала вершы ў "Нашай ніве". У 1916 выйшла замуж за Я. Купалу. З 1919 у Менску, працавала інспектарам дашкольных устаноў Наркамасветы БССР, выхавацельніцай і педагогам-метадыстам дзіцячых устаноў, на радыё. У 1944-60 дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы.

Складальнік зборнікаў матэрыялаў пра жыццё і творчасць Я. Купалы "Янка Купала" (1952, з В. Тарасавым), "Любімы паэт беларускага народа" (1960), "Янка Купала ў беларускім мастацтве" (1958), "Бібліяграфія твораў Янкі Купалы" (ч. 1, 1955, з Н. Кудраўцавай). Аўтар артыкулаў і ўспамінаў пра Я. Купалу, успамінаў пра З. Бядулю, Цётку. Сабрала і апрацавала "Народныя дзіцячыя песенькі" (1939), склала "Дашкольны спеўнік" (1928, з А. Савёнак), "Зборнік вершаў для дашкольных устаноў" і "Для маленькіх" (абодва 1940), апрацоўвала народныя казкі.

***Вікіпедыя.***

# "Белсат" і надалей павінен існаваць і прамаўляць па-беларуску!

## *Заява Сакратарыяту ТБМ*




Сябры грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" вельмі ўсхваляваныя навіной пра намер уладаў Польшчы перавесці на рускую мову і значна скараціць аб'ём вяшчання тэлеканала "Белсат".

Апошнія 9 год канал Белсат стаў яскравым прыкладам салідарнасці палякаў з беларусамі, сапраўднай дапамогай беларускаму грамадству ў атрыманні праўдзівай інфармацыі на роднай для беларусаў мове. Вельмі спадзяёмся, што цяперашнія ўлады Польшчы праявяць палітычную дальнабачнасць і мудрасць, і працягнуць вяшчанне на беларускай мове дзеля дэмакратычнай будучыні Беларусі.

Сакратарыят ТБМ.
16.12.2016 г.

# Беларускі доктар, асветнік, патрыёт

## *Да 115 годдзя народзінаў поўзабытага беларускага асветніка Мікалая Марцінчыка, рэпрэсаванага палякамі, немцамі і саветамі*

*Дзякуючы новым звесткам Мікалая Пацэнкі (М.П.) і, светлай памяці, Фёдара Ігнатовіча (Ф.І.) мы сёння можам больш напісаць пра лёс гэтага цікавага чалавека, хоць спрэчныя пытанні па біяграфіі яшчэ засталіся…*



Нарадзіўся Мікалай Марцінчык 16.12.1901 года ў в. Кубельнікі Гарадзенскага павета (сёння Бераставіцкі раён) у сялянскай сям'і. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы. У Масалянскай царкоўна-прыходскай школе атрымаў пачатковую адукацыю. Тутэйшы настаўнік матываваў разумнага хлопца да чытання - чытаў кнігі "запоем". Першая кніга пра Канька-Гарбунка, пазней "Новая зямля" запомніліся на ўсё жыццё *(М.П.)*. І нават на помніку М. Марцінчыку ў Алекшыцах выбіты любімыя словы з неўміручай "Новай зямлі" Я. Коласа:

***"Мой родны кут,***
***Як ты мне мілы,***
***Забыць цябе***
***Не маю сілы…"***

Разам з бацькамі, Міхасём Рыгоравічам і Фёклай Васільеўнай быў у бежанстве ў Расеі ў часы І Святовай вайны. Там скончыў 5 класаў гімназіі у г. Чыстопалі Казанскай губерні. Пасля вяртання ў Гародню паспяхова вучыўся ў Гарадзенскай руска-польскай гімназіі *(Ф.І.)*. Па звестках *(М.П.)* вучыўся у беларускай гімназіі. Пазнаёміўся з дзеячамі беларускага руху. Вызначаўся адукаванасцю, літаратурнымі здольнасцямі і беларускай самаідэнтыфікацыяй. Пасля гімназіі паступіў на медыцынскі факультэт у Вільню.

У час вучобы ў Віленскім універсітэце кіраваў Беларускім студэнцкім саюзам, рэдагаваў "Студэнскую думку", супрацоўнічаў з газетамі "Голас беларуса" і "Сялянская праўда", займаўся дабрачыннай дзейнасцю ў Таварыстве помачы пацярпеўшым ад вайны.

З 1921 па 1938 гг. сябар Прэзідыума віленскага нацыянальнага камітэта, прымаў удзел у каардынацыі беларускіх партый і арганізацый.

Меў сяброўскі білет №5 сябра БСРГ. Стаяў ля вытокаў гэтай арганізацыі. Удзельнічаў ў Гданьску (1925 г.) ва ўстаноўчым з'ездзе. Працаваў у розных рэдакцыях газет Грамады.

Бадай самай важнай справай М. Марцінчыка была праца ў ТБШ. Быў сябрам Галоўнай управы Таварыства. Прычыніўся да стварэння 12 акруговых управаў ТБШ, спрыяў стварэнню гурткоў ТБШ, беларускіх клубаў і бібліятэк у вёсках. Выязджаў на месцы каб адстойваць патрабаванні беларусаў да польскіх уладаў аб адкрыцці беларускіх школаў. У беларускім друку таксама адстойваў правы беларусаў мець свае школы на беларускай мове (падпісваўся ***М.М.***, ці ***М.***)

Пасля заканчэння ў 1927 г. Віленскага ўніверсітэта быў пакінуты ардынатарам у педыятрычнай клініцы, меў прыватную практыку з высокім заробкам (мог за дзень працы набыць карову), адначасова быў інспектарам ад ТБШ у Віленскай беларускай гімназіі, дзе выкладаў анатомію і гігіену (па звестках з Вікіпедыі хімію і біялогію) і абараняў гімназію ад прэтэнзій польскай адміністрацыі і паліцыі. У гімназіі вучыўся яго малодшы брат Іван *(Ф.І.)*.

Мікалай шмат працаваў, меў добры заробак і густ. Выдатна апранаўся. Падтрымліваў імідж добрага доктара, і аднachасова гэта дазваляла пазбягаць залішняй увагі польскіх паліцэйскіх, бо пад моднай вопраткай насіў спецыяльную камізэльку для дакументаў. Са свайго заробку аплачваў розныя выдаткі ТБШ, дапамагаў фінансава ў час гастроляў славутаму беларускаму спеваку Міхасю Забэйду-Суміцкаму. Па звестках (Вікіпедыі) быў яго асабістым доктарам. Цікава, ці сустракаліся яны ў Гародні напачатку 60-х гадоў, калі Забэйда-Суміцкі прыязджаў і выступаў у Гародні ў новым Палацы культуры тэкстыльшчыкаў?

Пад час выбараў у сойм 1927-1928 гг. у кватэры М. Марцінчыка быў выбарчы штаб. З Ігнатам Дварчанінам рэдагаваў газеты "Наша праца", "Думка працы" *(Ф.І.)*. У сойм былі абраны пяць беларускіх паслоў. Двойчы і сам быў кандыдатам у паслы сойма (1927, 1930), паліцыя двойчы яго арыштоўвала, і ён сядзеў некалькі месяцаў у Лукішскай турме, што перашкодзіла яму ў 1930 г. завершыць выбарную кампанію у сойм.

Па звестках Фёдара Ігнатовіча з-за адмовы палітычна супрацоўнічаць М. Марцінчык быў звольнены з беларускай гімназіі ў Вільні, дзе на той час працаваў дырэктарам Р. Астроўскі. Польскія ўлады таксама хацелі яго звольніць з педыятрычнай клінікі С. Баторыя, але кіраўнік клінікі В. Ясінскі паступіў больш сумленна і адмовіўся яго звальняць.



Прашчоўнікі камуністычнай палітызацыі (да іх належаў і М. Марцінчык) лічылі, што захаваць ТБШ можна толькі выконваючы Статут ТБШ, таму ён меў пастаянныя праблемы з кіраўніцтвам КПЗБ, якія ўсяляк імкнуліся радыкалізаваць ТБШ павярнуць на сваю карысць, не думаючы, што гэта паграджала закрыццю легальнай дзейнасці Таварыства.



Шмат каму з КПЗБ пад патранажам Масквы не патрэбна было культурнае адраджэнне беларусаў, яно ім замінала, як і Польшчы праводзіць сваю асіміляцыйную палітыку. Кіраўніцтва КПЗБ расцэньвала апалітычнасць як "здраду інтарэсаў беларускага народа", ні больш ні менш. Орган КПЗБ "Чырвоны сцяг" абвінавачваў іх у адцягванні народа ад барацьбы. Газета патрабавала выгнання з ТБШ М. Марцінчыка, Р. Шырмы, Ф. Сяцкевіча, П. Кізевіча (пра Піліпа Кізевіча, які стаіць на адным здымку каля М. Марцінчыка С. Чыгрын надрукаваў 14.11.2014 г. артыкул "Памяці Дзядзькі Піліпа" ў газеце "Новы час", *А.К.*) Іншая камуністычная газета "Аса" пагражала "ўкусамі" Луцкевічам, Марцінчыкам, Шырмам, Астроўскім, Клімовічам, Станкевічам….

У 1932 г. польскія ўлады выслалі М. Марцінчыка з Вільні як "нядобранадзейнага" без права вяртання. Хутка ў новым месцы (м. Ялоўка Ваўкавыскага павета, па звестках *М.П.* і Вікіпедыі польскія ўлады выслалі М. Марцінчыка ў Нараўку Гайнаўскага павета ў 1931 г.) вопытны лекар і грамадскі дзеяч стаў таксама аўтарытэтнай асобай. Ён і тут супрацоўнічаў з ТБШ, падтрымліваў і абараняў мясцовых актывістаў. У лістападзе 1932 г. ён даволі паспяхова правёў чарговы з'езд у апошняй акруговай арганізацыі ТБШ, якую пакуль не закрылі польскія ўлады. І хоць туды быў засланы начальнік польскай паліцыі з Вільні сп. Высакінскі для правакацыйных пытанняў на адкрыцці з'езду, М. Марцінчык жорстка пераканаў дэлегатаў прытрымлівацца Статуту ТБШ, і гэта дазволіла працягнуць легальную дзейнасць апошняй акруговай арганізацыі Таварыства на два гады.

Хутка дайшлі водгукі з СССР пра страшэнныя сталінскія рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі ў БССР. І тут у Заходняй Беларусі камуністы (відаць па камандзе) распачалі кампанію па "выкрыцці" Галоўнай управы ТБШ. Гэта цалкам супала з пажаданнямі польскіх палітыкаў нацыяналістычнага кірунку. Два лагеры ўспомнілі ўсё і пра "боб і гарох" і што быццам М. Марцінчык заклікаў ТБШ на з'ездзе да супрацы з "паланізацыйнымі арганізацыямі". Пісалі скажальныя факты, каб цяжка было апраўдацца. Польскі друк таксама не "спаў у шапку", пісалі на сваю карысць. Потым "пайшла ў бой і артылерыя". Абвінавацілі старшыню Акруговай управы В. Лукашыка ў фінансавых злоўжываннях і быццам да іх меў дачыненне і М. Марцінчык…. той, што са сваёй кішэні даваў грошы на ТБШ і іншым арганізацыям. Напады і хлусня сталі стандартнай зброяй тых часоў камуністычнай арганізацыі СССР-БССР і польскай дэфензівы. Адны верылі газетам камуністаў, другія - польскім газетам. Актывісты, кшталту М. Марцінчыка з беларускім светапоглядам былі меншасцю, таму і цярпелі ад усіх разам.



У адной з рэзалюцый 1934 года камуністы называлі Р. Шырму, М. Марцінчыка, Ф. Сяцкевіча і іншых кіраўнікоў ТБШ "агентамі польскай паліцыі", быццам яны хочуць звесці ТБШ з "шляху нацыянальна-вызваленчай барацьбы" і падпарадкаваць Таварыства "беларускаму нацыянал-фашызму".

У красавіку 1934 г. М. Марцінчык узначаліў сельскі шпіталь у м. Нараўка, каля Гайнаўкі *(Ф.І.)*. Насельніцтва добра прыняло ветлівага лекара *(з успамінаў М. Марцінчыка 1978 г.)*. Нават пад наглядам паліцыі ён наведваў па справах ТБШ Вільню і Варшаву. У 1934 г. зноў быў абраны сябрам Галоўнай управы. Асветніцтвам у ТБШ займаўся да 2.12.1936 года - да закрыцця ўладамі Таварыства.

Прыход савецкіх войскаў у 1939 годзе М. Марцінчык сустрэў у Нараўцы, дзе працягваў працаваць лекарам.

У 1941 г. апекаваўся 150 паранenymі. Медыцынскія сёстры пакінулі шпіталь. Параненыя савецкія чырвонармейцы былі размешчаны ў будынку Сельскага савета і Народнага дома. Перакваліфікаваўся у вайсковага хірурга. Аперацыйнай сястрой стала акушэрка Кацярына Іванаўна - пасля вайны яна стане жонкай М. Марцінчыка. Некалькі тыдняў ішло змаганне за жыццё салдат.



Немцы напачатку не перашкаджалі працы лекара. Большасць салдат пасля шпіталя пайшла ў лес, пачалі партызаніць. Немцы закрылі шпіталь, арыштавалі М. Марцінчыка быццам бы за працяг дапамогі былым параненым салдатам, якія пакінулі шпіталь. Але доказаў не знайшлі. Выпусцілі з-пад варты, дазволілі пераехаць у Белавежу, і ён там адкрыў амбулаторыю для прыватнай практыкі.

З 1944 года з жонкай пераехаў у Гародню. Працаваў у дзіцячым шпіталі і адначасна ў гарадскім аддзеле аховы здароўя, выкладчыкам фармакалогіі ў фармацэўтычнай школе. З 1944 г. галоўны лекар інфекцыйнага шпіталя, па сумяшчальніцтву (не хапала лекараў) быў педыятрам у абласной клініцы і лекарам у санітарнай авіяцыі. У службовай запісцы ад 20.09 1946 г. пісалі пра яго выдатныя прафесійныя і арганізатарскія здольнасці, і што ён адпавядае пасадзе галоўнага ўрача і спецыяліста-педыятра. Дапамагаў, як высокакваліфікаваны спецыяліст і мясцовай партыйнай наменклатуры, якая да яго звярталася. Некаму нешта не спадабалася… данеслі… арыштавалі, нагадалі, пра што пісалі камуністычныя газеты ў 30-я гады. Жонка звярталася нават да Цанавы. Той параіў з'ехаць у Польшчу. У адказ яна выказала жаданне ехаць адбываць пакаранне разам з мужам. Вялікі аматар прагляду футбола са "званіцы" будынка КДБ у Менску з усмешкай адначы што жонкі "дзекабрыстаў" былі жонкамі князёў і памешчыкаў.

Пастановай Асобнай нарады пры НКУС 12.03.1949 г. асуджаны на 10 гадоў. Маёмасць канфіскавалі. Адзін пакой заняў супрацоўнік НКУС. Потым падсялілі загадчыка Абласнога аддзела аховы здароўя. У апошнім пакоі засталіся жыць старая матуля, жонка і малыя дзеці - агулам 6 чалавек. Малодшы сын Мікалай нарадзіўся раней часу, у момант арышту бацькі. Роды прымаў лекар П. Церашкоў у прысутнасці супрацоўнікаў НКУС.





Пакаранне адбываў у Варкуце ў ППР "Ж" № 175/67. Выжыў, бо прызначылі з-за дэфіцыту добрых дактароў-турэмным лекарам. Пазней дазвалялі дапамагаць і мясцоваму насельніцтву. За сумленную работу меў некалькі падзякаў ад адміністрацыі лагера. 31.10.1955 г. быў датэрмінова вызвалены і звярнуўся са скаргай на неабгрунтаванасць прысуду ў Савет міністраў СССР. Адказу не атрымаў…

Пачалося жыццё з клямом "ворага народа". Недавер і падазронасць панавалі паўсюль. На працу браць баяліся. Змог уладкавацца толькі лекарам-педыятрам у гарадзенскі Дом дзіцяці. Толькі 26.12.1956 атрымаў рашэнне ваеннага трыбуналу на сваю карысць. Прозвішча даносчыка не стала таксама вядома. Пасля рэабілітацыі прызначылі загадчыкам аддзялення абласнога клінічнага шпіталя, адкуль ён у 1965 г. сышоў на пенсію.

У 1973 г. прафесар В. Бржэўскі пры падтрымцы адміністрацыі медінстытута паспрабаваў вярнуць з забыцця імя М.М. Марцінчыка. Быў накіраваны запыт пра "рэвалюцыйную дзейнасць" М. Марцінчыка ў Заходняй Беларусі ў інстытут гісторыі партыі са спасылкай на дакументы. Аднак намеснік дырэктара інстытута паведаміў, што партыйны архіў такіх звестак не мае, а іншыя матэрыялы *"не являются основанием для выдачи справок"*.

Прафесар Уладзімір Ладысёў у сваёй манаграфіі па КПЗБ (1976 г.) паўтарыў абвінавачванні Галоўнай управы ТБШ на адрас і М. Марцінчыка…

Цяжка хворы М. Марцінчык быў вымушаны звярнуцца з заявай у ЦК КПБ. Ён быў зноў гатовы абараняць сваё добрае імя, бо і да фінансавай палітыкі ТБШ не меў ніякіх адносінаў. Афіцыйнага адказу не дачакаўся, але яго наведаў прадстаўнік Гарадзенскага абкама КПБ, які прызнаў абгрунтаванасць заявы і папрасіў прабачэння, якое да шырокай публікі так і не дайшло…

На 79 годзе жыцця, 23 траўня 1980 года Мікалая Марцінчыка не стала. Пахаваны ў Алекшыцах, амаль у цэнтры могілак, паблізу магілы ў памяць аб добрым доктары і асветніку "плачуць" вялікія сосны…, стаіць бадай адзіны помнік у Алекшыцах, дзе надпіс на першай дзяржаўнай мове.

У час наведвання ў снежні 2016 г. магілы М. Марцінчыка прафесар А. Пяткевіч узгадаў яго: *"Апошнія гады ён стаў асцярожны, лішняга не гаварыў….".*

Адразу чамусьці ўзгадаліся з кнігі "Гарадзенскі палімсест" 2012 г., часы Цанавы ў БССР, калі ў час допытаў М. Марцінчык не прызнаў сваёй віны і не абвінаваціў іншых. Меў мужнасць і гонар… як напісаў пра яго Фёдар Ігнатовіч.

***Алесь Крой.***

# Надбаўкі настаўнікам і нацыянальны ўніверсітэт

## *Дэпутат і палітыкі абмеркавалі беларускую мову ў адукацыі*

12 снежня ў Менску па ініцыятыве дэпутата Алены Анісім і Маладых хрысціянскіх дэмакратаў адбыўся круглы стол на тэму "Перспектывы падтрымкі і развіцця беларускай мовы ў сістэме адукацыі"

У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, студэнты, педагогі, бацькі дзяцей, якія навучаюцца ў беларускамоўных школах і класах, якія распавялі пра свой досвед. На мерапрыемства таксама былі запрошаныя прадстаўнікі дзяржаўных і мясцовых органаў улады, адказных за сістэму адукацыі. Міністэрства адукацыі заявіла ажно шэсць чалавек, але ніхто з іх не прыйшоў.

Мэты круглага стала ў сваім кароткім уступным слове дэпутат Палаты прадстаўнікоў абазначыла наступным чынам:

- акрэсліць праблемы беларускамоўнага навучання;
- вызначыць іх прычыны;
- намеціць шляхі іх вырашэння.

Згодна з 50-м артыкулам Канстытуцыі, дзяржава гарантуе выбар мовы выхавання і навучання. Таксама дзяржава павінна ствараць умовы для рэалізацыі гэтага права. Але ў рэальнасці тым бацькам, хто хоча, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску ў дзіцячых садках і школах, трэба змагацца, сцвярджае Тацціяна, стваральніца першага беларускамоўнага класа ў Баранавічах.

- Прыйшлося абіваць парогі, пісаць лісты, нам гаварылі, што павінна набрацца 25 дзяцей, каб стварыць беларускамоўны клас. Потым усё ж зрабілі клас для маёй дачкі. Спачатку яна хадзіла ў яго адна, потым дадаліся яшчэ дзве дзяўчынкі. У пятым класе мы перавялі дачку ў гімназію, і зноўку пачалося - не набіралася гэтых 25 чалавек. Я пісала лісты да кіраўнічых органаў, у Міністэрства адукацыі, у Канстытуцыйны суд. Дапамагла асабістая сустрэча з прадстаўніком Мінадукацыі, ужо адтуль пачалі пісаць нашаму гарвыканкаму. У другой чвэрці шостага класа мая дачка ўжо пайшла ў беларускамоўны клас. Зараз там вучацца чатыры вучні, - распавяла пра свой вопыт Тацціяна. Яна скардзіцца, што нават ангельскага ў школах больш, чым беларускага, і па факце няма роўнасці правоў.



*Урок фізікі ў беларускамоўнай гімназіі № 23.*
*Фота: Аляксандр Корсакаў, TUT.BY.*

Загадчык кафедры беларускага мовазнаўства педуніверсітэта Дзмітрый Дзятко адзначыў, што людзі не адчуваюць унутранай патрэбы вывучаць беларускую мову. Да таго ж, на яго думку, мова значна палітызавана, і замест сферы культуры перайшла ў сферу палітыкі.

Ён прапанаваў павялічыць колькасць беларускамоўных класаў, што для бацькоў стала б сігналам сапраўднага клопату дзяржавы пра мову. Да таго ж, ён палічыў, што для заахвочвання настаўнікаў весці свае прадметы на беларускай мове, трэба рабіць ім надбаўкі ў памеры 10%, а лепш 30%.

Палітык і літаратар Павел Севярынец прапанаваў стварыць Дэпартамент беларускай мовы, а таксама выдзяляць на развіццё мовы і культуры па 2,5% з бюджэту і стварыць Нацыянальны ўніверсітэт:

- Сэнс - не скочвацца да бюракратызацыі беларускай мовы і не рабіць усё для галачкі, а зрабіць бліскучы ўніверсітэт з перадавымі сістэмамі адукацыі, магчыма, з прэстыжнымі стыпендыямі.

У выніку круглага стала, вызначаных праблемаў і агучаных прапановаў прынялі рэзалюцыю.

### Рэзалюцыя ўдзельнікаў круглага стала

**"Перспектывы падтрымкі і развіцця беларускай мовы ў сістэме адукацыі".**

Мы, удзельнікі круглага стала, канстатуем:

Сітуацыя з функцыянаваннем беларускай мовы ў сістэме адукацыі нездавальняльная. Не створаны механізм, які забяспечвае выбар мовы навучання.

Мы лічым, што дзеля паляпшэння сітуацыі неабходна зрабіць наступныя крокі:

- пры напісанні бацькамі заявы на прыём дзіцяці ва ўстанову адукацыі пісьмова прапаноўваць выбар мовы навучання;
- у кожным раённым цэнтры стварыць адну беларускамоўную гімназію як мінімум;
- павялічыць колькасць урокаў беларускай мовы ў сістэме школьнага навучання;
- у сістэме сярэдне-спецыяльнага навучання прадугледзець вывучэнне шэрагу дысцыплін на беларускай мове;
- стварыць універсітэт з беларускай мовай навучання як установу сучаснага ўзроўню для падрыхтоўкі спецыялістаў па прэстыжных і запатрабаваных у перспектыве кірунках дзейнасці;
- з мэтай заахвочвання выкладання розных дысцыплін на беларускай мове зрабіць надбаўку ў памеры 30% да акладу настаўнікаў і выкладчыкаў;
- прадметы агульнагуманітарнага цыклу, як гісторыя, геаграфія, грамадазнаўства і іншыя, выкладаць на беларускай мове;
- распрацаваць заканадаўчы акт аб адукацыі на беларускай мове, у якім будзе ўлічаны досвед розных краін і які будзе адпавядаць патрэбам сучаснага грамадства.

***Наш кар.***

# "Руссат" нам не патрэбны

## Рух "За Свабоду" пачаў збор подпісаў у падтрымку "Белсату"

Рада руху "За свабоду" 17 снежня 2016, на сваім паседжанні абвясціла аб пачатку збору подпісаў у падтрымку тэлеканала "Белсат".

У спецыяльнай заяве адзначаецца, што рух сур'ёзна занепакоены інфармацыяй пра магчымае істотнае скарачэнне вяшчання тэлеканала "Белсат" і пераход яго на расейскую мову.

*"Белсат" - адзіны беларускамоўны тэлеканал, які прадстаўляе праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю і ёсць выдатным узорам салідарнасці палякаў і беларусаў, заснаваны на ідэалах свабоды і дэмакратыі, спрыяе збліжэнню беларускага і польскага народаў і выбару беларусамі еўрапейскага шляху развіцця"*, - сказана ў заяве.

Пра тое, што МЗС Польшчы мае намер скараціць на дзве траціны фінансаванне "Белсату", і пра магчымы пераход тэлеканала на рускамоўнае вяшчанне паведаміла 15 снежня польскаму выданню wPolityce дырэктар "Белсату" Агнешка Рамашэўска-Гузы:

- Для нас скарачэнне фінансавання нават на 10 % было б трагедыяй. Наша тэлебачанне стала вельмі эканомным. Я казала падчас пасяджэння парламенцкай камісіі, што наш бюджэт эквівалентны пяцідзёнаму бюджэту Russia Today.

Між тым МЗС Польшчы адзначае, што рашэнне пра фінансаванне "Белсату" пакуль не прынятае.

***Радыё Свабода.***

## У Берасці адбылася акцыя "Мы любім "Белсат"

17 снежня актывісты кампаніі "Еўрапейская Беларусь" зладзілі акцыю ў падтрымку тэлеканала "БЕЛСАТ". Каляровыя налепкі "Я люблю "БЕЛСАТ" з'явіліся на рэкламных тумбах, дошках аб'яваў, прыпынках, кажа ўдзельніца акцыі Паліна Шарэнда-Панасюк:

- Тэлекнал "Белсат" - гэта не толькі актуальны і незалежны блок навінаў штовечар, гэта яшчэ мульцікі па-беларуску для нашых дзетак, дзякуючы якім яны засвойваюць родную мову. А таксама гэта цікавыя перадачы і фільмы, якія можна глядзець усёй сям'ёй таксама па-беларуску. Тысячы берасцейцаў глядзяць "БЕЛСАТ" праз спадарожнікавыя антэны, і яшчэ дзясяткі тысяч прагладаюць ягоныя навіны і перадачы праз інтэрнэт.







Паводле Паліны Шарэнды-Панасюк, такім чынам берасцейскія актывісты выказалі сваю падтрымку адзінаму незалежнаму беларускамоўнаму тэлеканалу, над якім навісла пагроза закрыцця.

***Беларускае Радыё Рацыя.***

# У Гародні прайшоў справаздачны сход ТБМ

Выніковы справаздачны сход за 2016 год правяла Гарадзенская абласная Рада Таварыства беларускай мовы. Найважнейшыя пытанні, якія цяпер стаяць перад сябрамі грамадскай арганізацыі - гэта падтрымка беларускіх школьных класаў і групаў дзіцячых садкоў. Па меркаванні Рады ТБМ, трывогу выклікае малая падпіска на газету "Наша слова". Кажуць удзельнікі Рады Іван Буднік і Аляксей Пяткевіч:

- У вобласці атрымліваецца, ну як які год, недзе ад 150 да 200 было раней, цяпер недзе 150. Астатнія, напрыклад, Гомельская, Берасцейская і да 100 не дацягваюць - 50-80 экземпляраў, Магілёўская таксама.





- Калі Рада была, мы казалі, каб усе ведалі, што пытанне падпіскі вельмі вострае і балючае.

Яшчэ тэмай года быў лёс музея Васіля Быкава, які так і не атрымаў належнага памяшкання, як гарадскі музей.

***Беларускае Радыё Рацыя, Гародня.***

## Патрэбна беларускамоўная гімназія



**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ "Белінвестбанка", г. Мінска, код 739*

**8 снежня 2016 г. №** 87

А.В. Шорацу,
Старшыні Мінскага гарадскога
выканаўчага камітэта,
праспект Незалежнасці, 8
220030, г. Мінск

Паважаны Андрэй Віктаравіч!

Цяпер у нашай сталіцы паспяхова функцыянуе некалькі гімназій і школ з беларускай мовай навучання, якія знаходзяцца ў розных раёнах горада. Аднак у Кастрычніцкім раёне такія школы і гімназіі адсутнічаюць, што не задавальняе патрэбы жыхароў раёна ў навучанні сваіх дзяцей на дзяржаўнай беларускай мове.

У сувязі з гэтым, мы прапануем адкрыць гімназію з беларускай мовай навучання на базе 75 гімназіі, якая знаходзіцца па адрасе: вул. Свярдлова, 30 у вельмі зручным месцы, непадалёк ад чыгуначнага вакзала. Колькасць вучняў у гімназіі невялікая, будынак вельмі добры, прывозіць дзяцей сюды можна не толькі з Кастрычніцкага, але і з суседняга Ленінскага раёна г. Мінска. Дырэктар гімназіі добра валодае беларускай мовай і зможа арганізаваць навучанне дзяцей на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі нашай краіны.

З павагай,
Старшыня ТБМ А. Трусаў.

## Падпіска ў нас ідзе выключна на добраахвотнай аснове

У адпаведнасці з рашэннем Рады ТБМ кіраўніцтва Таварыства звярнулася ў Міністэрства адукацыі з прапановай рэкамендаваць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры выпісаць газету "Наша слова" і атрымала адказ.

00027626

**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск
тэл. (+375 17) 327-47-36, факс (+375 17) 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

**МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
ул. Советская, 9
220010, г. Минск
тел. (+375 17) 327-47-36, факс (+375 17) 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

12.12.2016 № 05-23/5261/дс
На № 86 ад 05.12.2016

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

У Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш зварот аб арганізацыі падпіскі. Паведамляем наступнае.

У пісьме Міністэрства адукацыі ад 23.05.2016 № 05-23/1626/дс Вам паведамлялася аб тым, што камплектаванне бібліятэчных фондаў устаноў адукацыі перыядычнымі выданнямі фінансуецца з рэспубліканскага бюджэту. На гэтыя мэты могуць прыцягвацца таксама пазабюджэтныя сродкі, іншыя крыніцы, не забароненыя заканадаўствам. Бібліятэкі ўстаноў адукацыі рэгулярна папаўняюцца газетамі і часопісамі, выдадзенымі дзяржаўнымі СМІ як на рускай, так і на беларускай мовах. Што датычыцца індывідуальнай падпіскі на газеты і часопісы педагагічнымі работнікамі, то яна здзяйсняецца выключна на добраахвотнай аснове.

Таксама інфармуем аб тым, што ў кампетэнцыю Міністэрства адукацыі не ўваходзіць стварэнне пераліку выданняў сродкаў масавай інфармацыі для бібліятэк устаноў агульнай сярэдняй адукацыі.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 года "Об обращениях граждан и юридических лиц" Вы маеце права абскардзіць адказ Міністэрства адукацыі ў суд у парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам.

Намеснік Міністра Р.С. Сідарэнка.

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*




Шаноўныя сябры, заканчваецца падпіска на першае паўгоддзе 2017 года. У каталогу інфармацыя пра газету знаходзіцца на ст. 76. Цана змянілася нязначна. У 2017 годзе мы працягваем выходзіць на васьмі палосах. Газета мае добры рэдакцыйны партфель і планує для друку тэксты самых розных матэрыялаў, з рознымі поглядамі і падыходамі, у тым ліку і адрознымі ад пазіцыі рэдакцыі. Мы будзем працягваць друк мовазнаўчых і гістарычных матэрыялаў у выкладанні тых аўтараў, якіх вы не знойдзеце на старонках іншых выданняў. Мы не стараемся навязваць чытачу сваю думку ці погляды, а падаём паведамленні і меркаванні саміх чытачоў. Чытайце, даведвайцеся, думайце. Будзьце з намі, і вы будзеце з усёй Беларуссю.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2017 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі **7,44** руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2017 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

*Навіны Германії*

# Нямецкія Каляды ў Менску




Немцы, што жывуць, працуюць або вучацца ў беларускай сталіцы, адзначылі Каляды, бадай, першымі - ужо 18 снежня. Адметнасцю, а хутчэй заканамернасцю святочнай імпрэзы, якая адбылася ў Музеі Багдановіча, было тое, што яна вялася па-нямецку. Беларусы і іншыя замежнікі, якія сталі гасцьмі на Weihnachten, дзяліліся асаблівасцямі святкавання Калядаў у сваіх краінах таксама на мове Гётэ.





У Германіі існуе цікавая традыцыя. Там падарункі на Каляды пачынаюць атрымліваць ужо 1 снежня. Дзеля гэтага робяць спецыяльны "каляндар", а кожны дзень дарыцца новы маленькі падарунчак. Асабліва гэта распаўсюджана ў сем'ях з маленькімі дзецьмі. Дбаюць у Германіі і пра гаспадынь дому, якім 24 снежня не трэба шмат гатаваць, пра гэта даведаліся мы ад немкі Імке.

- У Гамбургу былі заўсёды традыцыйнымі стравамі каўбаса і салата з бульбы - гэта вельмі проста гатуецца. Я чула, гэта таму, каб жанчыны не сталі ў Каляды доўга ў кухні, а каб уся сям'я была разам.

***"Белсат".***

# Памёр пісьменнік і даследчык сталінскіх рэпрэсій Леанід Маракоў



Зранку 17 снежня пайшоў з жыцця Леанід Маракоў. Было яму 58 год.

У яго была пухліна галаўнога мозгу. Пра гэта Свабодзе паведамляў сын пісьменніка Дзмітры. Па словах Дзмітрыя Маракова, пухліна была прычынай таго, што на пачатку года Леанід перажыў інсульт. Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч 7 лістапада перадала на лячэнне Маракова тысячу даляраў.

Інжынер-радыёэлектронік Леанід Маракоў у 1990-я гады пачаў вывучаць біяграфію свайго роднага дзядзькі, паэта Валера Маракова, які быў расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. Вынікам працы стала маштабнае даследаванне сталінскіх рэпрэсій у Беларусі -10-тамовы энцыклапедычны даведнік "Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991", дзе сабраныя звесткі пра 20 тысяч ахвяраў. Леанід Маракоў таксама напісаў доследа "Ахвяры і карнікі", асобна выйшла кніга звестак пра рэпрэсаваных у Беларусі праваслаўных святароў. У 2014 годзе выйшла ягоная манаграфія "Галоўная вуліца Мінска. 1880-1940". Акрамя навуковых даследаванняў, у даробку Маракова і мастацкая проза: раман "Непамяркоўныя. Трэцяя спроба", зборнікі апавяданняў "Сшытак забітага кантрабандыста", "Яны не ведалі".

Дачка рэпрэсаванага ў 1937 годзе паэта Тодара Кляшторнага Мая Кляшторная ведала Леаніда Маракова яшчэ хлопчыкам, але пазней асабіста мала кантактавала, затое вывучыла ўсе творы Леаніда Маракова: *"Чалавек - інжынер па адукацыі, тэхнар, але павярнуўся да гэтай тэмы і пайшоў без аглядкі, і зрабіў вялікую справу. Хоць многія браліся, але не давялі да канца, не паднялі. А ён здолеў гэта зрабіць!..*

*... Леанід у дзяцінстве нічога не ведаў пра рэпрэсіі. Паступіў у радыётэхнічны інстытут, вывучыўся на інжынера і ўжо ў даволі сталым узросце пераключыўся на даследчыцкую дзейнасць.*

*Жыў Леанід, як мне падалося, па савецкіх мерках даволі нядрэнна, заможна. На пачатку 1990-х у яго была добрая машына, і ён нікому не адмаўляў - развозіў, працаваў на Саюз пісьменнікаў. На яго машыне мы ездзілі хаваць Алеся Адамовіча, потым не раз ён нас вазіў на магілу Адамовіча. Заўсёды працягваў руку дапамогі. Яго ўнёсак у высвятленне праўды пра рэпрэсіі быў вельмі значны. І каб такіх неабыякавых людзей было больш, магчыма, жылі б мы ў іншым грамадстве".*

Пахавалі Л. Маракова 19 снежня на Заходніх могілках Менска.

***Вікіпедыя*.**




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Панамароў Сяргей - 20 р., г Менск
2. Анісім Алена - 100 р., г. Менск
3. Яніцкая Мая - 50 р., г. Менск
4. Петрашэвіч Н.С. - 10 р., г. Іванава
5. Бандарэнка Ю.В. - 8 р., г. Менск
6. Лягушаў Алег - 10 р., ст. Ясень, Асіп. р-н
7. Ляўшун Дзяніс - 1- р., г. Менск
8. Несцераў Віктар - 100 р., г. Менск
9. Лебедзеў Уладзімір - 9 р., г. Берасце
10. Панамароў Сяргей - 10 р., г. Менск
11. Плакса Ўладзімір - 5 р., г. Менск
12. Чайкоўскі Павел - 8 р, г. Менск
13. Дабратвор Ілля - 5 р., г. Менск
14. Трусаў Алег - 40 р., г. Менск
15. Бамбіза Мікола - 90 р., г. Менск
16. Стэпановіч Язэп - 50 р., г. Менск
17. Дубко Тамара - 20 р., г. Менск
18. Захарэня Іван - 40 р., г. Менск
19. Сутулаў Глеб - 5 р., г. Менск
20. Кукавенка Іван - 15 р., г. Менск
21. Парэцкі Дзяніс - 20 р., г. Менск
22. Міхальчанка Тамара - 20 р., г. Менск
23. Тарашкевіч Андрэй - 24 р., г. Мазыр
24. Аніскевіч Ганна - 10 р., г. Баранавічы
25. Лабада С.І. - 11 р., г. Менск
26. Бойса І.Б. - 15 р., г. Ліда

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705

атрымальнік плацяжу

Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"

назва банка

Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |

Касір

Пеня

Разам

Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705

атрымальнік плацяжу

Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"

назва банка

Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня

Разам

Плацельшчык

# Паседжанне аргкамітэта па святкаванні 100-х угодкаў БНР

Адбылося чарговае паседжанне аргкамітэта па святкаванні 100-х угодкаў БНР. Нагадаем, што аргкамітэт быў створаны 26 сакавіка 2016 г. у Вільні. У яго склад увайшлі вядомыя грамадскія дзеячы, палітыкі, актыўныя грамадзяне. Сустаршыні - Радзім Гарэцкі, Марыя Міцкевіч.

На паседжанні 13 снежня было прынята рашэнне:

1) Стварыць адмысловую старонку ў фэйсбуку "БНР-100";

2) На працягу 2017 г. да 100-годдзя Усебеларускага кангрэсу зрабіць шэраг публікацый у прэсе, распрацаваць улёткі, іншыя візуальныя матэрыялы, правесці ўрачыстае мерапрыемства.

3) Чарговае паседжанне аргкамітэта прызначыць на 10 студзеня 2017 г. на 17 гадзін. Парадак дня - зацвердзіць план святкавання 100-х угодкаў БНР да 25 сакавіка 2018 г.

Падчас паседжання аргкамітэта для аператыўнай камунікацыі была створана Працоўная група, у якую ўвайшлі М. Люцко, В. Піліпук і А. Анісім. Сустаршыня Марыя Міцкевіч, якая знаходзіцца за межамі Беларусі, правядзе перамовы з прадстаўнікамі беларускай дыяспары і сябрамі БНР, для ўзгаднення супольных дзеянняў.

***Наш кар.***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

Міхал Шымялевіч

# Даўняя пошта і тэлеграф на Лідчыне

Імянны царскі ўказ ад 6 верасня 1795 г. устанавіў паштовыя камунікацыі з Пецярбурга да Вены праз Пскоў, Апочку, Друю, Вільню, Берасце, адкуль пошта далей рухалася на Люблін і Сандамір. Апрача гэтага, іншы паштовы тракт быў усталяваны з Масквы на Талочын, Менск і Нясвіж да Слоніма. Новы імянны ўказ ад 29 кастрычніка 1796 г., згодна з праектам генерал-губернатара Рапніна, змяніў кірунак венскага тракта, а менавіта перанёс гэты тракт з Апочкі на Друю, Вільню, Слонім і Берасце а таксама уладаваў тракт з Вільні да Гародні. Новыя тракты зноў прайшлі па Лідчыне: 1) з Вільні праз Беняконі, Сакалы, Ліду, Беліцу, Дзятлава, Задвор'е, Слонім, Місевічы, Ружаны, Пружаны, Кобрын да Берасця, 2) з Ліды праз Радзівонішкі, Ішчалну, Шчучын, Каменку, Скідаль, Жыдомлю да Гародні і 3) з Ліды праз Лупеніцу, Навіны, Наваградак, Карэлічы, Мір і да Нясвіжа. З Нясвіжа праз Сноў, Сталовічы, Палонку і Дзяды злучаўся трактам з Слонімам, Ружанамі і праз Падароск, Ваўкавыск, Пяскі і Каменку да Гародні. Даўнія тракты з Вільні праз Салечнікі, Суботнікі, Іўе да Наваградка і праз Беліцу да Гародні былі закрыты. На паштовых трактах у 1796-1800 гг. былі пабудаваны паштовыя дамы-станцыі, якія праз аўкцыён былі перададзены ва ўтрыманне поштхалтэрам[16]. На кожнай паштовай станцыі знаходзіўся паштовы чыноўнік - даглядчык станцыі, усе камунікацыі і перавозка карэспандэнцыі кіраваліся чыноўнікамі Паштамта ў Вільні.

Поштхалтэры былі абавязаны ўтрымліваць на станцыях неабходную колькасць коней і перавозіць дзяржаўных пасажыраў за 2 капейкі (потым за 3) за каня і вярсту, а кур'ераў, якія вязуць мяшкі з поштай, два разы на тыдзень - бясплатна. Паштовыя ўправы адкрываліся ў павятовых гарадах, тут канверты з карэспандэнцыяй штэмпелявалі сургучом і прымалі грошы за перасылку. Кожны ліст рэгістраваўся ў адмысловай кнізе і выпісваўся квіток. Мяшкі з поштай пад аховай узброенага кур'ера перавозіліся ў параконных брычках з будой, коні мяняліся на кожнай станцыі.

Гэта паштовая арганізацыя была знішчана ў 1812 г. Пра арганізацыю пошты падчас кароткачасовага французскага панавання інфармацыі няма. Пасля катастрофы Вялікай Арміі і ўступлення ў край рускай арміі, 9 снежня 1812 г. генерал-ад'ютант граф Ажароўскі рапартаваў камандзіру 4 корпуса кавалерыі генерал-ад'ютанту Васільчакаву, што ён арганізаваў эстафету паміж мястэчкам Каменка і Вільняй расставіўшы на паштовых станцыях па 3 казакі і 1 унтэр-афіцэра і прызначыў кіраваць гэтай эстафетай афіцэра, які кватараваў у Эйшышках. Ажароўскі пералічыў галоўныя населеныя пункты на тракце: Каменка, Шчучын - 14 вёрст, Ішчална - 14, Радзівонішкі - 18, Ліда - 20, Жырмуны - 14, Воранава - 14, Вялікія Салечнікі - 16, Едліна - 21, Вільня - 22,5, разам 153,5 версты. У сярэдзіне 1813 г. пошта на гэтым тракце працавала ўжо ў нармальным рэжыме.

22 кастрычніка 1830 г. быў апублікаваны агульны штат паштовай управы. Згодна з гэтым штатам створана V паштовая акруга, куды ўвайшла Віленская (потым - разам з Ковенскай) і Гарадзенская губерні, а гэта значыць, што і сучасныя Валожынскі, Лідскі і Шчучынскі паветы. Галоўная сядзіба гэтай паштовай акругі знаходзілася ў Вільні. 28 студзеня 1832 г. V паштовая акруга была расфарміравана і паштовымі ўправамі ў паветах пачалі кіраваць адпаведныя губернскія ўправы ў Вільні і Гародні. Да 1843 г. Лідскі павет уваходзіў у Гарадзенскую, а потым - у Віленскую губерню. Да 1873 г. паштовую ўправу Віленскай губерні узначальваў Лявонцій Даніловіч. У 1886 г. зноў была сфармавана акруговая ўправа пошт і тэлеграфаў, якая кантралявала ўсе паштовыя і тэлеграфныя інстытуцыі ў Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Сувальскай губернях.

Паштовымі пунктамі на тэрыторыі Лідскага павета кіравала павятовая паштовая ўправа ў Лідзе. Колькасць паштовых аперацый у XIX ст. была надзіва невысокай, інфармацыя па Лідскім павеце:

| Год | Колькасць дасланых лістоў | Колькасць атрыманых лістоў |
|---|---|---|
| 1854 | 5 961 | 7 151 |
| 1855 | 6 859 | 8 054 |
| 1856 | 5 995 | 7 122 |
| 1857 | 6 269 | 7 208 |
| 1858 | 6 484 | 7 655 |
| 1859 | 7 028 | 7 459 |
| 1860 | 8 715 | 9 424 |

Па колькасці атрыманых і адпраўленых лістоў Лідскі павет стаяў пасля Віленскага.

У 1860-62 гг. праз паўночна-заходнюю частку даўняга Лідскага павета прайшла чыгунка з Пецярбурга праз Вільню да Варшавы, на якой з'явіліся станцыі: Вільня, Ландвараў, Руднікі, Алькенікі, Араны, Марцінканцы, Парэчча і Гародня. У 1871 г. пачала эксплуатавацца Маскоўска-Берасцейская чыгунка са станцыямі: Менск, Фаніпаль, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Пагарэльцы і Баранавічы. У 1884 г. - лінія Вільня-Роўна Палескай чыгункі са станцыямі: Яшуны, Беняконі, Бастуны, Ліда, Нёман, Новаельня, Молчадзь, Баранавічы, а ў 1906 г. - лінія Полацк - Сядлец са станцыямі: Маладзечна, Палачаны, Ліставады, Дзесятнікі, Яросмішкі, Гаўя, Ліда, Скрыбаўцы, Ражанка, Масты, Падрось, Ваўкавыск. З пачаткам працы чыгунак змяняліся маршруты і закрываліся конныя паштовыя тракты, а на чыгуначных станцыях адкрываліся паштовыя пункты.

### IV

Розныя спосабы сігналізацыі людзям былі вядомы здаўна, але толькі ў XVII і XVIII ст. паўстала удасканаленая сістэма аптычных сігналаў. Складалася яна з ланцуга вежаў, на якіх выстаўляліся бачныя здалёк рэйкі, крыжы і г.д. Адлегласць паміж асобнымі вежамі была каля 10 км. Сігналы счытваліся пры дапамозе падзорных труб. На такіх прынцыпах базаваўся аптычны тэлеграф братоў Шапаў, распрацаваны імі ў 1780 г. Аптычны тэлеграф атрымаў досыць значнае прымяненне ў Еўропе і аказаў вялікую паслугу Напалеону падчас ягоных войнаў. Расійскі ўрад, занепакоены выбухам паўстання 1831 г., пасля яго задушэння таксама вырашыў пабудаваць лінію аптычнага тэлеграфу па сістэме Шапаў паміж Варшавай і Пецярбургам. Гэтая лінія служыла выключна для дзяржаўных мэт і складалася з 140 станцый, якія будаваліся на высокіх і адкрытых месцах. Усе станцыі былі аднатыпныя і апрача вежы складаліся з пафарбаванага ў ярка-жоўты колер дома, агароджы і студні. Сігнальныя рэйкі на вяршыні вежы фарбаваліся ў чорны колер. Знакі, якія перадаваліся па лініі расшыфроўваліся толькі на яе канцах - у Варшаве і Пецярбургу. Тэлеграфісты-пасярэднікі па ланцугу перадавалі знакі, не разумеючы іх сэнсу. Гэта лінія атрымала назву "Варшаўскай" і падпарадкоўвалася вайскоўцам. Уся лінія падзялялася на 6 дырэкцый. Першыя 5 дырэкцый мелі па 25 станцый, шостая мела 24, кожнай з дырэкцый падпарадкоўвалася рота сувязі: на кожнай з станцый знаходзіліся 1 унтэр-афіцэр, 2 старшыя і 2 малодшыя сігнальшчыкі і 1 "інвалід" для гаспадарчых паслуг. Сядзіба 4-й дырэкцыі месцілася ў Вільні і кіравала станцыямі ад вёскі Горы Браслаўскага павета да вёскі Адвернікі Лідскага павета, станцыі на поўдзень ад Вільні:

№14, у г. Вільні, на замкавай гары;
№15, каля засценка Падвысокае;
№16, каля вёскі Папоўшчына;
№17, каля мястэчка Парудаміна;
№18, каля мястэчка Яшуны;
№19, каля карчмы Гудэлькі;
№20, каля карчмы Смалянка;
№21, каля вёскі Расцюны;
№22, каля вёскі Рэзы;
№23, каля вёскі Юршышкі;
№24, каля вёскі Гарнастаішкі;
№25, каля вёскі Адвернікі.

5-я дырэкцыя мела сядзібу ў Гародні і адказвала за станцыі ад Адвернікаў да Тыкоціна, станцыі па ліні да Гародні:

№1, каля фальварка Палашкі.
№2, каля вёскі Ядзелаўцы.
№3, каля вёскі Казляны.
№4, каля фальварка Вугольнікі.
№5, каля засценка Вуглы.
№6, каля вёскі Кулёўцы.
№7, каля вёскі Раганічы.
№8, каля карчмы Шкленск.
№9, каля карчмы Бервы.
№10, каля фальварка Корчыкі.
№11, каля фальварка Разаліна.
№12, каля мястэчка Сакрэт.
№13, у горадзе Гародні, на вайсковым шпіталі "Новы Замак"[17].

Тэлеграфная лінія была адкрыта 10 красавіка 1839 г., і 29 красавіка цар Мікалай І зацвердзіў статут лініі. Лінія працавала да 1856 г.

У 1837 г. амерыканец Самуэль Морзе вынайшаў і пабудаваў тэлеграфны апарат на прынцыпах электрамагнетызму. У 1852 г. нямецкая фірма Сіменс з Берліна, грунтуючыся на ўмове з рускім урадам, прыступіла да пабудовы новай тэлеграфнай ліні з Пецярбурга уздоўж шашы на Царскае Сяло, Гатчыну, Дынабург, Коўню і да Варшавы. Статут гэтай ліні быў зацверджаны царом 15 красавіка 1854 г. Будаўніцтва лініі закончана 10 лістапада 1856 г., але эксплуатацыя пачалася толькі ў 1857 г., у 1860 г. нямецкі персанал змянілі падданыя рускага цара. Ад пачатку і гэта лінія належала войску, тэлеграфісты насілі вайсковыя мундзіры, шаблі і шпоры. Пасля пабудовы чыгуначнай дарогі Пецярбург-Варшава лінія электрычнага тэлеграфу пайшла уздоўж дарогі. У 1861 г. у Вільні функцыянавала тэлеграфная станцыя на якой працавала толькі тры чалавекі: начальнік і два ягоныя памочнікі. Станцыя падпарадкоўвалася Галоўнаму кіраванню шляхоў зносін і публічных будынкаў Расійскай імперыі. У 1875 г. была арганізавана Віленская тэлеграфная акруга. У 1878 г. штат тэлеграфнай станцыі ў Вільні складаўся з 70 чыноўнікаў, з іх 40 % - немцы.

### V

Паўстанне і развіццё месцаў службы сувязі на Лідчыне ішло наступным чынам.

**Ліда.** Паштовая станцыя з часоў караля Станіслава Аўгуста квітнела. На гэтай станцыі прымалі і выдавалі звычайную карэспандэнцыю - запячатаныя лісты. Інвентар Ліды 1798 г. апісвае дамы па Віленскай вуліцы: *"Ад Фарнага касцёла з правага боку знаходзіўся дзедзічны дварок яснавяльможнай пані Ёдкі, у якім пошта"*. Гэты дварок знаходзіўся на месцы сучаснай нерухомай маёмасці Фларэнтына Длускага, Сувальская, 58 (кінатэатр "Эра")[18]. У тым жа доме пошта паказана на плане горада Ліда 1832 г. Праз нейкі час гэтая нерухомая маёмасць становіцца уласнасцю прапаршчыка Дарожнага. У 1842 г. гэты дварок быў знішчаны пажарам, і пошту перанеслі на пляц Камянецкіх, паміж вуліцамі Пераса і Камерцыйнай, на месце, дзе зараз знаходзіцца нерухомасць Татарскага, Вальнскага і Алькеніцкага[19]. Тут, на чатырохвугольным падворку былі пабудаваны стайні, вазоўні, памяшканні для фурманоў і паштальёнаў, мураваны дом каля самой вуліцы, якая зараз мае назву Пераса, у гэтым доме і знаходзілася паштовая станцыя. Вуліцу потым доўга называлі Паштовай, і толькі ў 1892 г. яна была пераназвана ў Паліцэйскую.

Паштмайстрам у Лідзе ў 1790 г. быў Юзаф Паеўскі, будучы войт горада. У Палітычным календары на 1820 г. пад загалоўкам пошта напісана: *"Павятовая экспедыцыя ў Лідзе. Паштмайстар Караль Сташэўскі, тытулярны дарадца"*. Пошта таго часу падначальвалася Літоўскаму паштамту ў Вільні, а з 1830 г. - паштоваму інспектару V паштовай акругі, якая таксама мела сядзібу ў Вільні. У тым жа годзе паштовая экспедыцыя ў Лідзе перароблена ў павятовую паштовую ўправу 2-га класа. Адначасова такія ж управы створаны ў: Слоніме, 2-га класа, у Кобрыне, Наваградку і Пружанах 3-га класа, у Ваўкавыску і іншых гарадах 4-га класа. Штат управы 2-га класа складаўся з: паштмайстра, ягонага памочніка, трох паштальёнаў. На ўтрыманне памяшкання і канцылярскія выдаткі асігноўвалася 600 рублёў штогод. З 1878 г. паштмайстрам у Лідзе быў Канстанцін Аляксандраў.

У 1872 г. уздоўж паштовага тракту Вільня-Ліда-Наваградак-Мір пабудавана тэлеграфная лінія да Карэліч, а ў Лідзе заснавана тэлеграфная станцыя з двума апаратамі Морзэ. Першым начальнікам гэтай станцыі быў Савелій Нікіцін, тэлеграфным тэхнікам Хрысанф Аляхновіч, які гэтую лінію будаваў. Тэлеграфная станцыя знаходзілася на першым паверсе ў мураваным доме па вуліцы Віленскай, 42, у памяшканні, якое вызвалілася пасля ліквідацыі 1 красавіка 1872 г. павятовага суда. У 1873 г. Ліда была адзіным, акрамя Вільні, горадам у Віленскай губерні, дзе працавала тэлеграфная станцыя, прымаліся і адпраўляліся краёвыя і замежныя тэлеграмы. З Вільні да Ліды згодна з тарыфам за тэлеграму ў 20 слоў бралі 50 капеек. З 9 лістапада 1873 г. начальнікам станцыі быў Тэадор Рустановіч, а тэлеграфістам 4-га класа з 1 студзеня 1874 г. - Юзаф Гарневіч, які з 19 лютага 1882 г. стаў начальнікам гэтай жа станцыі. З 1 траўня 1882 г. тэхнікам станцыі быў Юзаф-Фелікс Паскочым.

У 1885 г. Лідская павятовая паштовая ўправа і тэлеграфная станцыя былі аб'яднаны ў паштова-тэлеграфную ўправу 6-га класа і пераехалі ў вялікі драўляны дом па вуліцы Сувальскай. Дом быў пабудаваны Антонам Малеўскім на выдзеленую яму Віленскай паштова-тэлеграфнай акругай субсідыю, якую ён павінен быў вернуць за 12 гадоў. У гэтым доме пошта знаходзілася да 1938 г.

У 1890-м годзе паштова-тэлеграфная ўправа узнялася да 5-га, у 1906 г. да 4-га, а ў 1913 г. да 3-га класа. Па штату 1911 г. тут акрамя паштальёнаў і ганцоў працавала 17 чыноўнікаў, а ў 1913 г. - ужо 22 чыноўнікі. Начальнікамі паштовай управы былі: з 31 сакавіка 1889 г. - Сямён Грачышчаў, з 21 сакавіка 1894 г. - Якуб Булгакаў, з 1904 г. - Васіль Смірноў, з 1909 г. - Мялітон Бярыдзе і з 1913 г. - Канстанцін Каланкоўскі. У 1915 г. персанал Лідскай паштова-тэлеграфнай управы эвакуяваны ў Каломну Маскоўскай губерні, так ўсё закончылася.

**Жырмуны.** Паштовая станцыя на тракце Ліда - Вільня. Даглядчык станцыі адказваў за прыём і выдачу карэспандэнцыі. У 1878 г. станцыя пачала апрацоўваць карэспандэнцыю ўсіх відаў. Пасля адкрыцця паштовага аддзялення на чыгуначнай станцыі Бастуны ў 1885 г. станцыя Жырмуны была закрыта.

**Бастуны.** З 1885 г. чыгуначная станцыя пачала з цягнікамі адпраўляць і атрымліваць пошту, за гэтую дзейнасць адказваў начальнік чыгуначнай станцыі. Асобная паштовая станцыя адкрылася тут у 1887 г., начальнікам яе стаў Андрэй Самусёнак. З 1 студзеня 1891 г. паштовая станцыя стала паштовым аддзяленнем. Ягонымі начальнікамі былі: з 1891 г. Сцяпан Кісялёў, з 1895 г. Мікалай Пятроў і з 1901 г. Кузьма Каланіцкі. У 1903 г. паштовае аддзяленне скасавалі за працу з поштай зноў пачаў адказваць начальнік чыгуначнай станцыі Бастуны. Начальнікамі гэтай станцыі былі: да 1911 г. Уладзімір Міхайлаў, потым Пётр Гацкевіч. Бастунская пошта ў асноўным абслугоўвала Жырмунскую воласць.

**Воранава.** Паштовая станцыя на тракце Ліда - Вільня. Паштовы дэпартамент згодна з прапанавай Гарадзенскай губернскай паштовай управы зацвердзіў адпраўку і прыём усялякай карэспандэнцыі на паштовай станцыі ў Воранава з 1 студзеня 1843 г. У 1885 г. паштовая станцыя ў Воранава была звязана паштовым кур'ерам з чыгуначнай станцыяй Бастуны - 9 вёрст. У 1905 г. з чыгуначным прыпынкам Воранава - 1,5 вярсты. 1 студзеня 1891 г. станцыя перароблена ў паштовае аддзяленне. Даглядчык станцыі з 1871 г. быў Антон Рынгуцкі, пасля яго Вінцэнт Пальчак, з 1911 г. - Мітрафан Сяцько. У 1915 г. паштовае аддзяленне эвакуявана ў Расію.

*(Заканч. у наст. нумары.)*

[16] Poczthalter - кіраўнік пошты, чыноўнік, які арганізуе працу пошты, размяркоўвае коней і вазы - *Л.Л.*

[17] Второе полное собрание законов … .Т. XIV. 12287.

[18] Зараз - Савецкая, 16

[19] Тэкст пісаўся ў другой палове 1930-х гг., зараз ні гэтых вуліц ні гэтай маёмасці няма - *Л.Л.*

# Гісторыі пасляваеннага Магілёва

Вечарыну-сустрэчу з найцікавейшым чалавекам зладзіла магілёўская суполка Таварыства беларускай мовы ў фармаце свайго "Беларускага гуртка", які збірае прыхільнікаў беларушчыны штомесяц. З магілёўцамі сустрэўся наш зямляк Алесь Станкевіч, грамадскі дзеяч, паэт, краязнавец, сябар Беларускага згуртавання вайскоўцаў.



Алесь Станкевіч да 1966 года жыў у Магілёве, тут прайшло яго дзяцінства і юнацтва, а яго бацькі пад час вайны актыўна ўдзейнічалі ў магілёўскім падполлі і партызанскім руху. З тых далёкіх часоў у спадара Алеся захаваліся вельмі яскравыя і маляўнічыя ўспаміны, якімі ён і падзяліўся з прысутнымі, зладзіўшы своесаблівую "віртуальную" вандроўку па цэнтры Магілёва пасляваенных часоў.



Вось як спадар Алесь Станкевіч распавёў пра тагачасныя розныя дзіцячыя забаўкі і першае сваё наведванне царквы:

- Калі мая малая сястрычка з вёскі прыехала, трэба было ёй нешта цікавага паказаць, а ў Доме Саветаў быў ліфт, на якім можна было "пакатацца", на першым паверсе прадавалі смачную газіроўку, пончыкі, гэта было ўсё ў дзіковінку. Паехалі на ліфце, дык яна потым расказвала - у нейкай шафе падымалі на гару, у ёй было цёмна і страшна, людзі зверху выглядаюць як мурашы. Першы раз я пабыў на набажэнстве ў царкве, якая тады яшчэ працавала, недзе ў чатыры гады, бабулька мене туды звадзіла. Мне цікава было, як усё адбываецца. А потым я стаў сведкам, як царкву закрылі, людзі пратэставалі. Але вернікаў, якія ў асноўным былі даволі сталага ўзросту, проста садзілі ў вялікія будкі ГАЗ-51 і адвозілі за горад - у Любуж ці за Пашкава - і там выпускалі, і старыя ішлі назад пешшу. А пасля паздымалі купалы і зрабілі Дом культуры Строммаша.

Узгадаў ён і пра наш гарадскі парк культуры і адпачынку:

- Парк сапраўды ўяўляў з сябе парк, гэта зараз прыйдзеш - там усё наскрозь бачна, а тады, не паспееш зайсці, тут кусты, справа там більярд, там бібліятэка, і пасярэдзіне алеі помнік таварышу Сталіну. А далей, там дзе зараз аглядальная пляцоўка, сядзелі ўдвух - Сталін і Горкі, а калі сказалі, што Сталін - нехарошы чалавек, яго адсеклі, і Горкі ўжо сядзеў адзін. Была там і танцпляцоўка, летні кінатэатр, пнеўматычны цір, а потым пабудавалі арэлі-лодачкі, і на іх было не прабіцца, натоўпы стаялі, і каруселі для дзетак. І ўсім хапала месца, і людзі туды хадзілі, а зараз толькі адна царква".

Ну і зразумела, не былі пакінуты за межамі сустрэчы ўспаміны пра ваенны час, якія Алесь Станкевіч чуў ад сваіх бацькоў, іх паплечнікаў і знаёмых. Госць вечара прэзентаваў і дзве свае кнігі - адна з іх як раз пра двух братоў-падпольшчыкаў, Васіля і Янку Станкевічаў (бацьку і роднага дзядзьку спадара Алеся), а другая - зборнік яговых вершаў "Прынагоднае".

*Алесь Сабалеўскі, Магілёў.*

# З Хведара Нюнькі знятыя ўсе абвінавачванні

У 2014 годзе ў Віленскім ТБК адбылася некарэктная змена ўлады. Да новага кіраўніцтва ТБК перайшла і ўся маёмасць таварыства, атрыманая і захаваная выключна намаганнямі шматгадовага старшыні ТБК Хведара НЮНЬКІ. Новае кіраўніцтва займела прэтэнзіі да гэтай маёмасці, да самога Хведара Нюнькі, да яго шматгадовай дзейнасці ў таварыстве. Імкнуліся яго ачарніць, паказаць, што ён займаўся не рэальнай справай - адбудовы беларускасці ў Літве, а асабістай нажывай грошай і фальсіфікацыяй фактаў і дакументаў.

У праваахоўныя органы Літвы (паліцыю, пракуратуру, суд) былі пададзены матэрыялы: даносы аб злоўжываннях у масштабных памерах і нават указвалі канкрэтныя нумары і артыкулы карнага кодэксу: нумары 183 і 184, па якіх Хв. Нюньку павінны былі жорстка пакараць, асудзіць, пасадзіць у турму, забраць уласную маёмасць. Каб дасягнуць належнага выніку на працягу судовага працэсу, які цягнуўся звыш двух гадоў, былі нанятыя аж тры дарагія адвакаты. Праверылі фінансавую дзейнасць за апошнія пяць год - нічога не знайшлі, далей запатрабавалі яшчэ за пяць папярэдніх год - вынік такі ж, нават дробязі не знайшлі. З фінансавай дзейнасцю было ўсё добра, нават бугалтарская дакументацыя вялася па законах Літоўскай Рэспублікі. Далей праверылі блізкіх родзічаў, нават тых, хто жыве па-за межамі Літвы. З пракуратуры быў адказ: "Цяпер Вы можаце спаць спакойна!" За гады, што цягнуўся судовы працэс, дасылаліся новыя абвінавачванні, вышукваліся новыя матэрыялы. Калі ўжо нічога не знаходзілася, напісалі нават, што тэлефонам ТБК (які даўно адключаны) карыстаўся для сваіх справаў. Спрабавалі пазбавіць Хв. Нюньку годнасці чальца Рады Прэзідыюма БНР. Рассылалі ілжывую інфармацыю па ўсіх беларускіх адрасах свету, у Літве… Спроба Хведара Нюнькі знайсці супольную мову, каб спыніць цкаванне, вынікаў не дала.

На працягу звыш двух гадоў працягваўся пошук злачынстваў Хв. Нюнькі, апытанні сведкаў, праца экспертаў. Падрабязную праверку ўсіў матэрыялаў вяла пракуратура. Але не знайшлі крыміналу не толькі ў масштабных памерах, але і ў дробязях. А як стараліся яны запэўніць людзей, што справа ў адносінах да Хв. Нюнькі бяспройгрышная. Калі не ўдасца вярнуць дамкі на Жыгімантоўскай вуліцы, то можна забраць уласную маёмасць, і тады хопіць усім. Самі добра ведалі, што беларускія арганізацыі тут ніякай нерухомасці не мелі, а нават, каб і была, то законы Літоўскай Рэспублікі не дазваляюць прыватызаваць, але людзям укладвалася ў галовы, што тры дамкі нашы, і мы іх хутка будзем мець.

Вядома ж ад нязгоды пацярпела і беларуская справа. Такі выпадак у Літве адзіны сярод больш як ста розных нацыянальнасцяў, якія пражываюць у краіне. Цяпер адрадзіць беларускасць вельмі цяжка, пагатоў ёсць сілы, якім гэта і трэба.

Яшчэ на пачатку судовай справы, светлай памяці, мастак, пісьменнік, грамадскі дзеяч Алег Аблажэй, у артыкуле "Элегантная правакацыя" пісаў, цытую: "Не называю ўсіх, якія паверылі паклёпнікам, бо гэтым людзям яшчэ жыць і жыць, і не трэба траціць надзеі, што яны калісь усведамяць, якой бруднай справай займаліся, далучыўшыся да кампаніі ачарнення старшыні".

Віленскі Акружны суд сваім рашэннем ад 7 снежня 2016 года паставіў апошнюю кропку ў гэтай судовай справе. Адкінутыя ўсе абвінавачванні ў адносінах да асобы Хведара Нюнькі, і, як кампенсацыю, суд прысудзіў выплаціць яму 3000 еўра. Скончылася так, як і прадсказваў у сваім артыкуле, светлай памяці, Алег Аблажэй.

***Наш кар.***

# "Крывічы" з Іркуцка перамаглі ў інтэрнэт-галасаванні за найлепшы нацыянальна-культурны цэнтар

Рэдкі ўдалы прыклад беларускай салідарнасці: моладзевы клуб "Крывічы" па выніках рэйтынгавага галасавання на партале адміністрацыі Іркуцка заняў першае месца сярод чатырох дзясяткаў аб'яднанняў нацыянальных аўтаноміяў.



Перадусім тое стала магчыма дзякуючы высілкам вядомага рупліўца беларушчыны, актыўнага ўдзельніка "Крывічоў" Алега Рудакова, які дзеля перамогі ўзняў ці не ўсю інтэрнэт-прастору Беларусі. Зрэшты, цалкам заслужана: нідзе ў свеце, уключна з самой метраполіяй, беларускае нацыянальнае жыццё не вірue гэтак, як у Прыбайкаллі.

Нягледзячы на тэхнічную мудрагелістасць онлайн-галасавання, беларусы набралі 41% ад усіх галасоў, пакінуўшы далёка ззаду суполкі бураттаў, татараў, башкіраў, чувашоў, азербайджанцаў, армянаў, казахаў, узбекаў, палякаў, літоўцаў ды іншыя. Каб атрымаць патрэбны вынік, Рудакоў некалькі тыдняў метадычна праводзіў піяр-кампанію сярод беларусаў па ўсім свеце.

"Шаноўныя сябры, дзякуй вам! - з палёгкай напісаў Алег Рудакоў а 9-й гадзіне 12 снежня, разам з заканчэннем галасавання. - Мы абавязкова паведамім, які прыз уручыць нашаму клубу падчас урачыстай імпрэзы 16 снежня мэр горада Іркуцка. А пакуль выказваю ўдзячнасць усім, хто знайшоў час і магчымасць, каб прадэманстраваць сваё яднанне з намі!"

У конкурсе брала ўдзел яшчэ адна арганізацыя беларусаў - Іркуцкае таварыства беларускай культуры (ІТБК) імя Яна Чэрскага. 20 гадоў таму ля вытокаў яе нараджэння стаяў усё той жа Алег Рудакоў. Аднак нейкі час таму ідэйныя супярэчнасці з маладым актывам прымусілі вызваліць "лыжню" і сканцэнтравацца на дзейнасці пад дахам "Крывічоў". Там кіраўніцай і каардынаткай - Воля Галанава, яе, як і іншых суродзічаў, вярнуў да каранёў галоўны сібірскі беларус:

- У супольнасць мы аб'ядналіся яшчэ ў 1996 годзе, - робіць невялікі экскурс у гісторыю Алег Рудакоў. - Спачатку ўзнікла адна рэгіянальная грамадская арганізацыя - Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. А неўзабаве, літаральна праз год, пачаў дзейнічаць моладзевы клуб "Крывічы". Праўда, клуб мы афіцыйна зарэгістравалі толькі ў 2009-м, але першыя крокі зробленыя амаль 20 гадоў таму. Туды прыходзілі перадусім маладыя людзі, народжаныя ў Сібіры ў трэцім, нават у чацвёртым пакаленні. У асноўнай масе гэта нашчадкі беларускіх перасяленцаў па сталыпінскай рэформе, а таксама з сем'яў, эвакуяваных падчас Першай усясветнай вайны, раскулачаных, рэпрэсаваных, савецкіх вайскоўцаў, добраахвотнікаў камсамольскіх будоўляў.

***Ігар Карней.***

# Выйшаў беларускі перакідны каляндар

Новы беларускі настольны перакідны каляндар на 2017 год выдадзены намаганнямі гарадзенскай філіі Таварыства беларускай мовы. У календары пазначаны згадкі пра найважнейшыя рэгіянальныя падзеі, якія звязаны з беларушчынай. Прафесар Аляксей Пяткевіч усцешаны, што такое выданне з'яўляецца штогод.

- Каляндар вельмі важны па той прычыне, што ў нас дзяржаўнага беларускага настольнага календара, які б ляжаў увесь год перад чалавекам, які працуе за сталом, ужо даўно няма. Ён знік з вытворчасці. Каляндар - гэта спосаб папулярызацыі нашай гісторыі і культуры.

Каляндар не камерцыйны, але за апошнія гады набыў вялікі попыт сярод гарадзенскіх карыстальнікаў. Укладальнік календара - Аляксей Пяткевіч, рэдактар - лідскі краязнавец Станіслаў Суднік. Надрукаваны гарадзенскім выдавецтвам "ЮрСаПрынт".

*Якуб Сушчынскі, Беларускае Радыё Рацыя, Гародня.*


БЕЛАРУСКІ НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ КАЛЯНДАР

НА 2017 ГОД

(на матэрыяле Гродзеншчыны)

Складальнік А. Пяткевіч
Рэдактар С. Суднік

Гродна 2016

# На літаратурным экватары

Альманах "Літаратурны экватар" (выпуск 5), што днямі пабачыў свет у выдавецтве "Ковчег" (наклад 200 асобнікаў), безумоўна, заслугоўвае ўвагі чытачоў і, вядома, прафесійнай літаратурнай крытыкі. Сам альманах (штогоднік) заснаваны ў 2012 г. Аўтары і гэтага нумара - удзельнікі літаратурнага клуба "Экватар", які існуе сем год на базе бібліятэкі Цэнтральнага дома афіцэраў горада Менска, і які ўзначальвае беларускі паэт Вячаслаў Корбут. Разам з ім аўтарскі калектыў выдання складае 32 асобы паэтаў, празаікаў, драматургаў. Апроч сваіх твораў, яны тут прадстаўлены як біяграфічнымі, бібліяграфічнымі даведкамі, так і цудоўнымі фатаграфіямі, што змешчаны на 2, 3 і 4-й старонках вокладкі.




Большасць творцаў "Экватара" - не навічкі ў літаратуры. У іх за спінай друкі ў салідных літаратурных выданнях і па некалькі выданняў сваіх арыгінальных кніг паэзіі і прозы. Наўрад ці варта пералічваць тыя кнігі. Чытач і крытык пераканаецца ў гэтым сам. Значная колькасць аўтараў выдання - ураджэнцы розных рэгіёнаў Беларусі. Сёння яны - жыхары беларускай сталіцы. У кожнага з іх актыўная жыццёвая пазіцыя. Хто з іх не на пенсіі, той заняты ў сваёй прафесійнай дзейнасці (навукоўцы, урачы, інжынеры, настаўнікі, службоўцы і інш.).

Альманах - двухмоўны (з беларускімі тэкстамі суседнічаюць і рускія), але пераважае ўсё ж стыхія беларускасці. Добрым сведчаннем гэтаму можа служыць і факт, калі рускамоўны аўтар (Людміла Сівалобава) сваю аповесць і апавяданне прадстаўляе ў перакладзе на беларускую мову (перакладчык Інга Вінарская).

Адразу неабходна адзначыць, што паэзія, проза і драматургія пераважнай большасці "Экватара" ніколькі не саступае творам членаў як аднаго, так і другога Саюза пісьменнікаў. Ну вось да прыкладу:

**Трыялет**

Не сцірае час сляды
Там, дзе вера і сумленне,
Дзе адданасць і натхненне,
Не сцірае час сляды.

Дзе ніколі праз гады
Не шукаецца забвенне,
Не сцірае час сляды
Там, дзе вера і сумленне.

*(Валер Скакун. 17.03.1961 - 20.03.2016)*

Ці вось яшчэ:

***Жажда жизни***

Замерзают облака
В индевелой луже,
Рана сердца глубока,
Если ты не нужен.

По изнанке боль течет,
Леденеет сердце,
Чувствам всем наперечет
Хочется согреться.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*(Раіса Паўлючук)*

Можна было б цытаваць больш аўтараў, але хай паспаліты чытач зробіць гэта сам. Можна было б працытаваць некаторыя ўрыўкі з празаічных і драматычных твораў, але аб'ём рэцэнзіі не дазваляе зрабіць гэта.

А вось не звярнуць асаблівую ўвагу на навукова-папулярны тэкст Якава Анапрыенкі "Зямляк мой - Палуян" - немагчыма. Гэта вельмі каштоўны і годны ўнёсак у біяграфію беларускага літаратурнага генія Сяргея Палуяна, якому прысвяціў верш "С. Палуяну" і свой адзіны (першы і апошні) пры жыцці паэтычны зборнік "Вянок" другі беларускі літаратурны геній, яго сябра Максім Багдановіч. На вялікі жаль, С. Палуян вымушаны быў пайсці з жыцця ва ўзросце 19-і гадоў. Памяці С. Палуяна прысвяціў сваю паэму "Курган" і верш "Памяці С. Палуяна" Янка Купала. С. Палуяну прысвяціў свой верш у прозе "Раны" Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі).

Нельга абыйсці ўвагай навукова-папулярны нарыс Кацярыны Мяшковай "Узрушаючая магія Веткі". Чытачам увогуле і ў прыватнасці чытачам "Нашага слова" імя К. Мяшковай вядома як тэленавітай паэткі і як займальнага рэпарцёра-падарожніцы. Сёння ў сваім нарысе яна падрабязна раскрывае асаблівасці і таямніцы іканапіснай веткаўскай школы на Гомельшчыне.

Можна не сумнявацца, што інтэрвію Інгі Вінарскай з паэтам, празаікам, навукоўцам Алесем Пашкевічам і з паэткай Данутай Бічэль у пэўнай ступені здольна ўзбагаціць сучаснае беларускае літаратуразнаўства.

І, канешне, варта засяродзіцца на змястоўных уступных артыкулах да "Экватара" В. Корбута і І. Вінарскай "Па слядах незлічоных зорак" і "Экватар чалавечых лёсаў". Дарэчы, яны ж і ўкладальнікі гэтага цікавага тома аб'ёмам умоўна-друкаваных аркушаў 17,12 (360 старонак) пры фармаце 84х108/32.

А напрыканцы рэцэнзіі, безумоўна, пажадаем усім, хто спрычыніўся да стварэння "Экватара", здароўя, шчасця, далейшых творчых здзяйсненняў на карысць прыгожага беларускага пісьменства. І заўсёды заставацца на экватары жыцця, не пакідаць яго.

***Яўген Гучок, паэт публіцыст.***

# Прэзентацыя "Карыды"

На трох мовах - беларускай, рускай, іспанскай - выйшла параўнальна невялікая аповесць Валера Санько "Карыды вогненныя іскры" (Смэлтак, лістапад 2016, 154 стар., 100 асобнікаў). Упершыню надрукавана яна нескарочанай, як з 1987 года мноства разоў раілі аўтару шматлікія рэдакцыйныя і выдавецкія стараннікі з Менска і Масквы.




У Таварыстве беларускай мовы і лінгвістычным універсітэце адбыліся прэзентацыі адметнага твору, выдатна аформленай кніжкі. Змястоўна выказваліся даследчыкі, аматары краязнаўства, пісьменнікі. Аўтару шмат задавалі пытанняў пра яго папярэднія выданні, у прыватнасці пра асобных герояў дакументальнага рамана пра Чарнобыльскую катастрофу (2013), пра некаторыя важныя, хаця і туманныя, эпізоды аповесці пра забойства Янкі Купалы (2013).

Асабліва цікава пра дзевятнаццатую кнігу пісьменніка гаварылі ў ТБМ Ядвіга Рай, Мікола Галаўнёў, Ганна Дусь, Мікола Бамбіза, Кірыла Шык, іншыя.



Своеасаблівым працягам прэзентацыі назаўтра стала абмеркаванне "Карыды" ў Менскім лінгвістычным універсітэце.

- Студэнтам іспанамоўнага факультэта і выкладчыкам яна асабліва патрэбная, - падагуліў вынікі абмеркавання перакладчык аповесці, шматгадовы выкладчык універсітэта Мікалай-Іван Фёдаравіч Ляніўка, 1945 г.н., ураджэнец Буэнас-Айрэса (Аргенціна), з 1956 года жыхар Менска. - Фразеалогія і лексіка розных моваў лепей засвойваецца, калі блізка, прама на сталі ёсць параўнальныя тэксты.

Прыцягвае мастацкае апісанне карыды, выказваныя мужнасць і адвага чалавека ў схватцы з грамадзінаю быкам. Не забыць удумліваму чытачу апошнія чатыры раздзелы пра філасофскую і этнаграфічную сувязь сённяшняга дня, рэаліяў карыдных баёў з Сатурналіямі і Дзіянісіямі ў Старажытнай Грэцыі, Рыме, даўнейшымі і цяперашнімі беларускімі Купаллямі, Калядоўямі.

Дванаццаць выкладчыкаў і лабарантаў, асобныя студэнты набылі вартную кнігу.

Думаецца істотна, што ў сціслай форме інфармацыю пра кнігу і яе прэзентацыю змясціла "Радыё Рацыя".

***Ганна Дусь.***

**27 снежня 2016 г. з 15-00 па 17-00 у сядзібе ТБМ (Менск, вул. Румянцава, 13) адбудзецца прэзентацыя новай кнігі Міколы Мілаша "Ідэнтыфікацыя нацыі як нацыянальная ідэя".**

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***
***Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 19.12.2016 г. у 17.00. Замова № 2852.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1,06 руб., 3 мес.- 3,18 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.